**№ 231 (1295)**

Аўторак, 11 снежня 2001 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 120 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

**Надвор'е**

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі — снег, па захадзе туман, слабая галалёдзіца. Вецер паўночны, 3—8 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — -6...-8, Мінску — -4...-6, Гродне, Брэсце — -2...-4, Магілёве — -9...-11, Гомелі — -5...-7.

У наступныя двое сутак часам снег. Вецер паўночна-ўсходні, 4—9 м/с. 12-га ўначы — -7...-12, пры праясненнях да -17, удзень — -5...-10; 13-га ўначы — -12...-17, месцамі да -22, удзень — -9...-14.



АКЦИИ

## Они хотят знать правду

**Ни 15-градусный мороз, ни угрозы, исходящие от телекамер "охранки", не стали в минувшее воскресенье препятствием для очень многих минчан, вставших на тротуар проспекта Скорины с портретами жертв политических репрессий в Беларуси.**

Живая цепь неравнодушных людей протянулась от площади Независимости до площади Октябрьской. Подобные акции прошли в областных и районных городах нашей страны. Люди с портретами в руках Захаренко, Гончара, Карпенко, Завадского, Красовского, Климова, Майсени и других в очередной раз напомнили властям: Беларусь должна знать правду не только о тех, кто пропал, но и обо всех беззакониях, которые творятся в стране. И зря А.Лукашенко говорил, что вот пройдут выборы и оппозиция забудет об исчезнувших. Нет, не забудет. Как не забудет весь белорусский народ. И наступит час, когда каждый, кто повинен в жутких преступлениях, получит по заслугам. Такие злодеяния срока давности не имеют.

Замечу: в Минске развертывание цепи неравнодушных было запланировано на 15 часов. Но уже в 14.15 я наблюдал, как к месту проведения акции стягивались милицейские патрули. Однако на этот раз хапуна не было. И даже машина с громкоговорителями проехала вдоль цепочки портретов политрепрессированных молча.

Примечательно, что более половины этих неравнодушных граждан Беларуси составила молодежь. Многим из них на вид не было и восемнадцати. А это означает, что нынешний авторитаризм обречен, Беларусь в недалеком будущем станет правовым государством, в котором не будут уничтожать людей.

**Валерий ЩУКИН.**

## Брэсцкі прафесар у ліку вядомых вучоных XXI стагоддзя

Доктар навук, прафесар Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага універсітэта Віталь Севяранін унесены Кембрыджскім міжнародным біяграфічным цэнтрам у лік вядомых вучоных XXI стагоддзя.

Віталь Севяранін — аўтар не аднаго дзесятка вынаходак, звязаных з пульсуючым гарэннем. Яго распрацоўкамі даўно цікавяцца галандцы і французы, немцы і амерыканцы.

У Беларусі ж яго вынаходкі застаюцца незапатрабаванымі.

Зараз Віталь Севяранін гатовы прапанаваць дзве зусім новыя тэхналогіі спальвання нізкаякаснага паліва (адходаў, смецця), якія ўжо былі выпрабаваныя і даказалі высокую эфектыўнасць. Вучоны лічыць, што ва ўмовах нафтагазавай залежнасці ад Расіі гэтыя вынаходствы могуць быць карысны беларусам.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ,**

## Беларусы! Уратуем Беларусь!



10 гадоў таму галоўная плошча Мінска стала называцца плошчай Незалежнасці. Шкада, але за гэты час Беларусь так і не стала па-сапраўднаму БЕЛАРУСКАЙ дзяржавай. Русіфікацыя, сляпая арыентацыя на Крэмль могуць прывесці нацыю да поўнай згубы. Зганяецца з Беларусі дух Скарыны, дух Купалы, Коласа, Багдановіча...

Пра якую НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ у такім выпадку можна гаварыць?

Беларусы! Уратуем Беларусь!

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Как допрашивали Олега Божелко

***В пятницу на судебном процессе по делу о похищении оператора ОРТ Дмитрия Завадского допрашивали бывшего генпрокурора Беларуси Олега БОЖЕЛКО.***



Напомним, что решение о вызове Божелко суд принял после того, как был допрошен известный журналист Павел Шеремет.

Шеремет не раз говорил о том, что после отставки генпрокурора встречался с ним. Разговоры, по его словам, происходили при свидетелях и *"...несколько человек могут подтвердить, что Олег Божелко знает многое о том, как расследовалось дело о похищении Дмитрия Завадского, и о похищениях других известных людей"*.

Накануне президентских выборов о своей встрече с Олегом Александровичем рассказывал на пресс-конференции и лидер движения "За новую Беларусь!" Василий Леонов. Говорил, между прочим, положив руку на Библию.

*"Первый раз мы проговорили с Божелко три часа, — говорил Леонов. — Потом было еще несколько встреч. Олег Александрович рассказывал обо всем, что ему известно. Всякий раз он обещал выступить в средствах массовой информации, в том числе и перед телекамерами, но всегда переносил сроки этого выступления.*

*Я не буду повторять то, что уже было написано в прессе. Скажу только, что Божелко все это полностью подтвердил.*

*По словам экс-генпрокурора, для ареста командира СОБРа Дмитрия Павличенко были все основания. Решение о его задержании принимали Божелко и Мацкевич. После ареста Павличенко они пошли к Лукашенко с докладом и предложением об аресте Сивакова и Шеймана. Основанием для их ареста были показания свидетелей и ряд документов, подтверждающих существование "эскадронов смерти". То, что рассказал мне Божелко, полностью подтверждает рапорт генерала Лопатика. Кстати, у Лопатика состоялся разговор с Лукашенко, во время которого генерал сказал: "Александр Григорьевич, вы не имели права убивать генерала Захаренко!". Это подтверждает Олег Божелко.*

*Божелко обстоятельно рассказывал о том, что Лукашенко всячески мешал проведению следствия. Требовал прекратить следствие в отношении установления истинных причин пропажи Захаренко и Гончара. Из упрека Лукашенко в адрес Божелко: "Ты довел меня до истощения! Я ночами не сплю. Глотаю горстями таблетки, а ты копаешь... Копаешь под меня... Бросьте искать Захаренко и Гончара! Вам что, нужно, чтобы оппозиция носила гробы с их телами по Минску?..*

*У меня есть три свидетеля этих встреч. Эти люди присутствовали при всех моих встречах с Божелко. Они готовы явиться в любой суд, в том числе и белорусский, если им будет гарантирована безопасность".*

Василий Севостьянович, полагаясь на порядочность Божелко, не записывал эти беседы ни на видеокамеру, ни на диктофон.

Никто не отрицает, что эксгенпрокурор в полном объеме видел уголовные дела Захаренко, Гончара, Красовского и Завадского. Говорят, он их даже втихаря ксерокопировал. И во многом благодаря ему общественность узнала о том, что было написано в рапортах генерала Лопатика и полковника Алкаева.

По словам очевидцев, Олега Божелко ДОПРАШИВАЛИ НЕ БОЛЬШЕ ДЕСЯТИ МИНУТ. Экс-генпрокурор заявил, что, согласно Уголовно-процессуальному кодексу, не может быть свидетелем, поскольку в свое время участвовал в расследовании дела о похищении Дмитрия Завадского. И еще одна деталь. На суде Олег Божелко заявил, что не встречался с Павлом Шереметом. Выходит, один из них нагло врет. И либо Шеремета, либо Божелко нужно привлекать к ответственности за дачу ложных показаний. Сделает ли это суд?

А.Лукашенко не раз публично заявлял, что экс-управляющий делами президента Иван Титенков, бизнесмен Виктор Логвинец (известен тем, что на его деньги А.Лукашенко покупали дорогие костюмы, и, видимо, не только их) и экс-генпрокурор Беларуси Божелко **обворовали страну на сорок два миллиона долларов**. Как заявил корреспонденту "Народной воли" на одной из пресс-конференций сам Лукашенко, по этому факту *"возбуждено уголовное дело, где фигурантами являются очень многие люди"*, в том числе и Олег Божелко. Однако Божелко, как, собственно, и его подельники, по-прежнему на свободе. А после "допроса" ему, судя по всему, барской милостью вообще простят все прегрешения. И назначат на какую-нибудь хлебосольную должность. Или не назначат, а, наоборот, дадут "вольную". Как Олег Александрович сам захочет...

**Марина КОКТЫШ, Валерий ЩУКИН.**

АДКРЫТЫ ДЫЯЛОГ

## "У тэлефона — галоўны рэдактар..."



*Заснавальнік першай штодзённай незалежнай рэспубліканскай газеты "Народная воля"* **Іосіф Сярэдзіч** *пяць гадзін будзе адказваць на пытанні чытачоў.*

Прыкідваючы планы на 2002 год, журналісты "Народнай волі" разумеюць: у газеце павінны адбыцца вялікія перамены. Каб апраўдаць давер чытачоў, творчаму калектыву трэба падняцца на больш высокую арбіту.

**Якой павінна быць "Народная воля" ў 2002 годзе?**

**Якія тэмы заслугоўваюць першачарговай увагі?**

**Што хвалюе сёння людзей у сталіцы і самых аддаленых вёсках?**

**Каго трэба вывесці "на чыстую ваду"?**

**У якія куточкі чалавечай душы павінны глыбей зазірнуць вопытныя журналісты?**

Адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні хацеў бы пачуць ад Вас, шаноўныя сябры, галоўны рэдактар "Народнай волі". Хочаце проста параіцца, расказаць пра нешта асабістае? Калі ласка, размова можа быць самай-самай шчырай...

Словам, заснавальнік і галоўны рэдактар "Народнай волі" выклікае агонь на сябе.

У сераду, 12 снежня, з 12.00 да 17.00 ён выходзіць на прамую сувязь па тэлефоне **206-68-71.**

Калі раптам нехта не зможа дазваніцца, напішыце ліст з паметкай **"ДЫЯЛОГ З ГАЛОЎНЫМ РЭДАКТАРАМ".**

ПЕЧАЛЬНАЯ СТАТИСТИКА

## Огромный рост. Убытков

Официальная пропаганда трубит про некий огромный рост. Но если и говорить о росте, то только — о росте убыточных предприятий.

Эти данные мы взяли из седьмого выпуска аналитического бюллетеня "Малый и средний бизнес в Беларуси", который издается при содействии Международной финансовой корпорации.

Как видим, в стране в последние годы наблюдается катастрофический рост убыточных предприятий. По сравнению с 1999 годом их количество более чем удвоилось. К тому же специалисты в комментарии к данной таблице утверждают, что реальное число убыточных предприятий значительно больше, таких, примерно, половина.

| | Удельный вес убыточных предприятий, % | | |
|---|---|---|---|
| | 1999 | 2000 | 2001 январь-июнь |
| Всего | 16,9 | 23,4 | 35,8 |
| в том числе | | | |
| - промышленность | 8,8 | 18,8 | 32,0 |
| - транспорт | 15,0 | 19,3 | 32,8 |
| - строительство | 5,2 | 8,8 | 20,1 |
| - торговля и общественное питание | 8,8 | 22,2 | 35,8 |
| - сельское хозяйство (Минсельхозпрод) | 36,9 | | 48,4 (янв.-май) |

## Камп'ютэр чытае ўголас

Спецыялістамі Інстытута тэхнічнай кібернетыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі створана унікальная камп'ютэрная праграма — сінтэзатар маўлення "РЭКЛОН" — для перадачы інфармацыі сляпым людзям.

Зараз камп'ютэр можа "чытаць" услых любую тэкставую інфармацыю і свае паведамленні. Апрача таго, выкарыстанне сінтэзатара маўлення "РЭКЛОН" дазваляе ствараць камп'ютэрныя сістэмы навучання вуснаму маўленню, павышае зручнасць карыстання камп'ютэрам і значна зніжае нагрузку на нервовую сістэму і зрок.

Праграма "РЭКЛОН" кіруецца сродкамі Windows і прад'яўляе невысокія патрабаванні да персанальнага камп'ютэра: працэсар з тактавай частатой 166MHz, 32Mb аператыўнай памяці, 7Mb свабоднага месца на цвёрдым дыску.

Распрацоўшчыкі сінтэзатара маўлення "РЭКЛОН" разлічваюць, што іх унікальны праграмны прадукт зацікавіць фірмы-вытворцы праграмнага забеспячэння для персанальных камп'ютэраў і будзе садзейнічаць адаптацыі людзей з абмежаваным зрокам у сучасным грамадстве.

**Юрый КАСЬЯНАЎ.**

ЧУЛІ?

## Магіляўчане выйгралі маскоўскі тэндар

Завод "Магілёўтрансмаш" прыступіў да вырабу трохвосевых шасі для хларыдных цыстэрнаў. Заказ на вытворчасць гэтай прадукцыі быў атрыманы пасля таго як прадпрыемства выйграла тэндэр, арганізаваны ўрадам Масквы.

На думку спецыялістаў "Магілёўтрансмаша", у прадпрыемства з'явілася перспектыва значна павялічыць экспарт сваёй прадукцыі ў Расію. Справа ў тым, што хларыд прымяняецца для ачысткі вуліц ад лёду. Такі метад выкарыстоўваецца не толькі ў Маскве, але і ў іншых расійскіх гарадах.

**Канстанцін УВАРАЎ.**



ЗЕРКАЛО СОЦИОЛОГИИ

## Главная опора А.Лукашенко — малограмотная пенсионерка

По данным Независимого института социально-экономических и политических исследований, за А.Лукашенко проголосовало большинство женщин (55,4%), пенсионеров (78,1%), пожилых (50—59 лет — 57,9%), 60 лет и старше — 80,9%) и малообразованных (с начальным образованием — 81,6%), неполным средним — 63,4%) избирателей, проживающих прежде всего в Гомельском регионе (65,4%), а также в сельской местности (59,9%). Наименьшую поддержку А.Лукашенко получил от мужчин (39,5%), учащихся (21,1%), работников негосударственного сектора (25,0%), молодежи и лиц среднего возраста (18—19 лет — 22,6%, 30—39 лет — 26,5%), избирателей с высшим образованием (35,2%), проживающих в г.Минске (33,6%) и больших городах (41,4%).

В целом анализ ответов респондентов позволяет представить усредненные образы сторонника и противника А.Лукашенко. Первый — это женщина-пенсионерка с начальным или неполным средним образованием или пожилая неквалифицированная работница государственного предприятия, проживающие на селе в восточных регионах страны (прежде всего в Гомельской области). Второй — это студент или молодой работник негосударственного сектора с высшим образованием, проживающие в Минске или больших городах прежде всего Гродненского региона.

**Антон ВОЛЬСКИЙ.**

Народная Воля 11 СНЕЖНЯ 2001 г.

РЭГІЁН

## Самадурства манапалістаў

Сотні жыхароў Віцебска, якія карыстаюцца тэлефонамі, знайшлі днямі ў сваіх паштовых скрынях дзіўныя пасланні ад гарадской тэлефоннай станцыі прадпрыемства "Віцебскаблтэлекам". Тыповы тэкст змяшчаў запрашэнне тэрмінова (!) прыбыць у абаненцкі аддзел ГТС для заключэння альбо перазаключэння дагавора на паслугі сувязі. У адмоўным выпадку, — тлумачылі аўтары паслання, — "мы будзем вымушаны выключыць Ваш тэлефон да высвятлення. Тэрмін 7 дзён".

Зразумела, што гэты суровы ультыматум, пастаўлены перад усімі без разбору (нават перад тымі, хто дзесяцігоддзямі спраўна пералічвае плату за тэлефон), не мае законнага аснавання. І калі акуратны спажывец паслуг электрасувязі не выканае ўказаных у "павестцы" патрабаванняў, сувязісты не маюць аніякага права выканаць сваю пагрозу. Але хто можа паставіць на месца пайшоўшых насуперак закону чыноўнікаў? Хіба што суд. Іншых інстанцый для абароны сваіх правоў у віцебскіх карыстальнікаў сувязі, на жаль, няма. Хоць раней яны былі.

Існаваў Камітэт па антыманапольнай палітыцы. Але пяць гадоў таму яго разагналі разам з аналагічным міністэрствам, а створаны на руінах гэтай службы Камітэт прадпрымальніцтва і інвестыцый (у яго складзе быў аддзел па абароне правоў спажыўцоў) таксама дажывае апошнія дні.

Цяпер на Віцебшчыне няма каму змагацца супраць самадурства прадпрыемстваў-манапалістаў, якія, пастаянна ўзнімаючы цэны на свае паслугі, загналі спажыўца ў вугал.

## Атрута замаруджанага дзеяння

У той час, калі ўвесь свет непакоіцца аб тым, як абараніць людзей ад зброі масавага знішчэння, на Віцебшчыне падобная зброя ўжо дзейнічае.

Згодна з дадзенымі абласнога Камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, ролю гадзіннікавых мін з атрутай выконваюць сховішчы адбракаваных сельскагаспадарчых ядахімікатаў. Усе тры створаныя ў мінулыя гады "магільнікі" для ядаў аграрнага прызначэння былі зроблены з адхіленнем ад стандартаў бяспекі і ў месцах з высокім гарызонтам грунтавых водаў. У выніку ў калодзежы і ў глебу выносіцца вялікая колькасць хімічных рэчываў, небяспечных для чалавека. Канцэнтрацыя некаторых ядавітых элементаў і спалучэнняў перавышае гранічна дапушчальны іх узровень ад двух да дванаццаці разоў!

Самае страшнае, бадай, тое, што ў выніку якой-небудзь надзвычайнай сітуацыі хутка ліквідаваць небяспеку распаўсюджвання атруты будзе немагчыма, бо да "ядамагільнікаў" няма пад'язных шляхоў.

## У Оршы з мясам усё горш

Многія жыхары Оршы, запрасіўшы да навагодняга стала сяброў і блізкіх, не змогуць пачаставаць іх ні вырабамі хатняй кулінарыі, ні магазіннымі каўбасамі.

Замест гэтага дэфіцыту гаспадары вымушаны будуць прапанаваць... кансервы. Нічога іншага не застанецца рабіць, да прыкладу, работнікам мясцовага мясакамбіната, якім ужо некалькі месяцаў запар выдаюць замест зарплаты бляшанкі з мяснымі кансервамі. Каса прадпрыемства пустая, а на рахунках больш запазычанасцей, чым даходаў. Толькі энергетыкам мясаперапрацоўшчыкі павінны 600 мільёнаў рублёў. Няма абаротных сродкаў і для разліку з пастаўшчыкамі сыравіны, якая няспынна даражэе.

Але нават і дарагога мяса не хапае, таму вытворчасць каўбас зменшылася з пачатку года амаль удвая. Ва ўсіх навакольных раёнах Оршы пагалоўе свіней і буйной рагатай жывёлы скарацілася настолькі, што камбінат цяпер перапрацоўвае толькі па 35—40 тон сыравіны ў дзень — у пяць разоў менш, чым на пачатку бягучага дзесяцігоддзя.

Дарагоўля і недахоп мяса (асабліва высакаякаснага) паставілі пад пагрозу ліквідацыі апошнюю надзею калектыва — адзіны ў СНД цэх па вытворчасці дыетычнага дзіцячага харчавання — спецыяльных мясных кансерваў для маленькіх.

Пазбаўленая дзяржаўнай датацыі і экалагічна чыстага мяса дасканалая тэхналагічная лінія, якая ў спрыяльных умовах магла б стаць крыніцай валютнага прыбытку, хутчэй за ўсё будзе спынена. Гэта яшчэ больш паскорыць эканамічны крах прадпрыемства, якім Орша справядліва ганарылася на працягу доўгага часу...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

КАК ЭТО БЫЛО...

# Несостоявшийся губернатор

*Владимир Михайлович СЕМЕНОВ теперь занимает скромную должность. Но в Гродно он пользуется большим уважением. И не потому, что когда-то занимал очень высокие посты, а потому, что остался верен своим принципам.*

*С ним — беседа нашего собственного корреспондента по Гродненской области.*

**— Владимир Михайлович, угождать кому-либо — не в Ваших привычках...**

— Услужливо гнуть спину — последнее дело. Вспоминаю в этой связи перипетии моего так и не состоявшегося назначения на пост председателя Гродненского облисполкома. Вызвали меня тогда на беседу к Лукашенко. Долгий был разговор — больше двух часов. Сейчас в это трудно поверить, но тогда Лукашенко сказал буквально следующее: хочу так расставить кадры, чтобы в одной области губернатором был коммунист, в другой — представитель БНФ, в третьей — беспартийный и т.д. И пусть люди сами оценят, кто и как умеет работать. А ты, Семенов, будешь единственным коммунистом-губернатором (Заломай в Бресте к тому времени уже вышел из партии). Это теперь Лукашенко единственно верным считает только свое мнение. А тогда соглашался и с моим мнением — о приватизации госсобственности, об ошибочности огосударствления потребкооперации, о путях развития промышленности. Согласно кивал головой даже тогда, когда я сказал, что не буду нарушать законы и ваши указы, но все же буду делать по-своему, чтобы Гродненская область и впредь была лучшей в республике.

Указ о моем назначении, знаю, был тут же подписан. С тем и уехал в Гродно. Как вдруг вечером, накануне сессии областного Совета, где и должно было состояться мое утверждение в должности, мне звонят добрые знакомые из Минска: сегодня, мол, президента спешно навестили два претендента на губернаторское кресло и вылили на тебя столько грязи, что Лукашенко ахнул. Так что предлагать тебя на сессии он не будет.

**— Помню эту горячую сессию во Дворце культуры химиков. У входа — сотни гродненцев, у многих в руках — антипрезидентские плакаты...**

— Толпа, встречая президента, скандировала: "Давай Семенова!". Перед началом сессии мне ничего не сказали, более того — предложили занять место рядом с Дубко, который в тот день должен был быть в Москве. "Почему не поехал? — спрашиваю. — Может, тоже рекомендуют губернатором?". В ответ: "Да нет, я должен выступить в твою поддержку от имени села". О закулисных играх на самой сессии можно долго рассказывать, как и о странном поведении Дубко, то вдруг выдвигающего свою кандидатуру, то снимающего, а после объявленного по настоянию президента перерыва опять попадающего в списки для голосования. Президент настоял, чтобы председателем облисполкома стал Дубко, что для многих на сессии было полной неожиданностью. Но не для меня, знавшего, что Дубко-то и примчался накануне сессии к президенту. С ушатом грязи на Семенова. Но, как говорится, Бог ему судья.

**— Колхозный председатель Дубко, кстати, состоял членом бюро обкома КПБ в те времена, когда партия еще была при власти. И, наверное, стоит вспомнить, как правящая партия расставалась с властью, каким было последнее заседание бюро обкома?**

— Мы не знали еще тогда, что заседание бюро обкома, назначенное на 31 июля 1991 года, станет последним в истории областной партийной организации. Я тогда много работал в Москве, в комиссиях Верховного Совета. И нас, депутатов, попросили не уходить в отпуск, потому что будет рассматриваться новый Союзный договор. Ознакомившись с предложениями Горбачева по этому договору, понял: Союзу конец. А я и без того чувствовал себя очень плохо — обострилась язва. Отправился немного отдохнуть на Нарочь, поскольку врачи не рекомендовали уезжать далеко. Там, на Нарочи, и встретил свой день рождения — 31 июля. А бюро в мое отсутствие проводил второй секретарь обкома Козяк (теперь Винценты Иванович Козяк назначен помощником президента, инспектором по Гродненской области. — **В.Б.**). Рассмотрели на том бюро обычные, плановые вопросы: о работе Кореличской районной партийной организации по повышению роли семьи в воспитании детей и о дотациях городским и районным газетам. После заседания члены бюро позвонили мне, поздравили. Потом несколько человек приехали ко мне, посидели... Хотя какое там застолье, если у именинника приступ язвы. Еще неделю провалялся, и лечащий врач говорит: "Срочно уезжайте в Гродно, делайте операцию". Лежу уже дома после всех обследований, включаю телевизор и слышу: в Москве переворот, ГКЧП... Кто прав, кто виноват — никто не знает. Из ЦК команд и информации нет, правительство молчит. Потом заседает наш Верховный Совет и создает комиссию Пырха — искать в Беларуси виновных в московском перевороте. Я вышел на работу, говорю работникам аппарата обкома: "Поддержки вам ни от кого не будет, и в первую очередь не ждите ее от ЦК. Власть ушла из рук партии еще в 1990 году, когда XXVIII съезд КПСС подтвердил решение XIX Всесоюзной партийной конференции об упразднении 6-й и 7-й статей Конституции СССР". Говорю обкомовцам, что в Беларуси мы переходим на работу в условиях парламентской республики...

**— То есть ни одна партия не должна подменять органы государственного и хозяйственного управления...**

— И это — нормально. Еще будучи секретарем обкома по промышленности, я умолял наши парторганизации: быстрее отдавайте власть Советам! Упрашивал Советы: беритесь наконец-то за руководство экономикой! А что касается отмены 6-й статьи, то, работая в комиссиях XXVIII съезда КПСС, предлагал: партия, победившая на выборах, получает право формировать правительство. Но для этого нужно голосовать по партийным спискам, что, собственно, и принято в большинстве нормальных стран с нормальной многопартийной системой. Но только не в сегодняшней Беларуси, где в результате и парламента как такового не имеем.



*В.Семенов: нынешняя власть сама не знает, в какую сторону мы движемся.*

**— Прошло десять лет после Вискулей, а нынешние власти все еще ссылаются на распад СССР как главную причину плачевного сегодня состояния белорусской экономики. Апеллируют привычно и к тяжелому наследию, оставленному стране коммунистами.**

— Сами ссылки эти противоречат одна другой. Зачем тогда, спрашивается, утверждать, что белорусская промышленность вышла вновь на уровень 1990 года, если это было время "развала" экономики коммунистами — враньё непонятное. Я-то знаю, что было и что есть, поскольку и теперь часто бываю на предприятиях, работая в фирме "Промкомплект". Звоню на завод, что приеду в среду. А там говорят, что в среду не работают, как и в понедельник, пятницу. "А когда вы работаете?" — "Во вторник, четверг". "Ладно, а к концу дня можно приехать? Нет, мы работаем только в первую смену. А ведь этот завод в свое время действовал в трехсменном режиме, я сам, будучи секретарем обкома, уговаривал людей выйти и в субботу.

Когда-то шло масштабное обновление производственных фондов, велось интенсивное промышленное строительство. Были возведены Сморгонский завод оптического станкостроения, Волковысский завод кровельных и строительно-отделочных машин и многие другие уникальные предприятия, продукция которых теперь остается невостребованной. Поэтому и распродает остатки производственных фондов Волковысский завод литейного оборудования. Идет с молотка уникальное оборудование Сморгонского агрегатного завода. А амортизаторы производства Гродненского завода автоагрегатов, которые шли прежде в Японию, Италию и Францию, теперь даже белорусские автолюбители остерегаются покупать — качество сомнительное, поскольку оборудование для их выпуска донельзя износилось. И так обстоят дела на большинстве некогда процветающих предприятий.

Новые власти сегодня живут за счет того, что было создано раньше. И еще, похоже, не один год так проживут.

Может, это и плохо звучит, но, не став губернатором, я избавился от ответственности за весь тот бардак, что творится сейчас в области, — начиная с простоев предприятий и кончая коррупцией и преступностью. Пытался, правда, ходить со своими предложениями в облисполком, где меня только первый заместитель председателя Михаил Александрович Логвин осмеливался принимать. А к Дубко не пускали.

А когда умер Леонид Герасимович Клецков, мне даже не нашлось места в облисполкомовском автобусе, что шел на похороны в Минск. Бывший секретарь обкома по идеологии Бирюкова, которая не без моей помощи была после запрета партии устроена на работу в облисполком, где стала вскоре заместителем председателя по "новой" идеологии, другие тамошние аппаратчики — мои бывшие подчиненные — посчитали, видите ли, зазорным и небезопасным ехать вместе со своим прежним шефом, попавшим в немилость самому "батьке". Отправился в столицу на машине своего однофамильца — Анатолия Семеновича Семенова, тогдашнего генерального директора "Химволокна". А в Минске меня уже с Анатолием Семеновичем опять не пустили в тот же автобус, отправлявшийся на кладбище. И сделал это не кто-нибудь, а начальник управления общественно-политической информации и печати Омелько — облисполкомовский "идеолог", работавший в обкоме партии на той же идеологической ниве. Тогда он был не в пример услужливым. После этого у меня совсем отпало желание общаться с бывшими работниками аппарата обкомов, занявшими при новой власти исполкомовские и прочие кабинеты. Посчитал это для себя морально невозможным.

**— Хотя Вы, Владимир Михайлович, и занимались непосредственно трудоустройством работников аппарата после того, как обком прекратил свою деятельность. Что же изменилось в Вашем отношении к людям, которых Вы в трудный момент их жизни опекали?**

— Действительно, еще до Вискулей руководство обкома трудоустроило почти всех работников аппарата — вплоть до водителей и уборщиц. Я уговорил тогдашнего председателя облисполкома Арцименю найти работу для большинства наших людей. А мне бывший член бюро обкома Арцименя заявил: "Тебе не будет места не только в органах государственного управления, но даже на каком-либо госпредприятии". Это, по всему видать, была месть Арцимени за проигрыш мне на выборах первого секретаря обкома, за то, что я всегда противился его авантюрным стремлениям без конца "доить" промышленность. Хотя сам Арцименя сослался на мнение Верховного Совета, посчитавшего всех высокопоставленных партийных работников преступниками. Как бы там ни было, но мне пришлось долго маяться без работы. Не самому плохому, наверное, инженеру, бывшему конструктору МТЗ.

А отношение к бывшим партработникам, занимающим неплохие места во властных структурах? Как я еще могу относиться к бывшим коммунистам, которые дали указание гродненским пожарным сорвать красный флаг нашей партии со здания, где несколько комнат занимает обком ПКБ. С корнем вырвали — вместе с флагштоком. Уж очень торопились угодить Лукашенко, посетившему Гродно.

**— В том же здании, к сведению людей, не знающих Гродно, находится и штаб-квартира местной организации БНФ. Так и бело-красно-белый флаг в тот же день сорвали...**

— Тоже — вопрос... Или почему бывшие коммунисты, что сейчас у власти, загнали обком ПКБ чуть ли не в самое задрипанное здание — без воды и канализации? А своей, послушной властям партии — то бишь партии Чикина, отвели весьма благоустроенные помещения там, где раньше находился обком комсомола.

Может, сами по себе люди эти — нормальные. Есть у них семьи, надо кормить детей. Но иных целей в жизни, кроме материального и служебного благополучия, у них, к сожалению, зачастую нет. Потому они и слепо выполняют указания главы "вертикали". Вот в чем беда.

Нет у нас и общегосударственных целей. Власти пока не удосужились толком объяснить, что за общество строится в Беларуси, в какую сторону мы движемся. А раз нет четко очерченной цели, то все идеологические концепции властей, как и обещания каких-то реформ, — чистой воды блеф.

**Вячеслав БАЛАМУТ.**

## У Маларыце разбурыўся кінатэатр

7 снежня самаадвольна разбурыўся кінатэатр "Радзіма" ў Маларыце Брэсцкай вобласці. У будынку рухнулі перакрыцці і чатыры жалезабетонныя апоры, на якіх трымаліся сцэны. Будынак аднаўленню не падлягае.

Адбылося гэта раніцай. Паколькі людзей паблізу не было, ніхто не пацярпеў. На месца здарэння выязджаў намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Пячко. Зараз праводзіцца расследаванне прычын разбурэння кінатэатра.

Кінатэатр быў пабудаваны ў 1950-х гадах, а 20 гадоў таму — рэканструяваны.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**



ОСТРАЯ ПРОБЛЕМА

# Россиянам нужны деньги, а не бартер

В Витебском облисполкоме недавно состоялось совещание энергетиков, в котором приняли участие президенты столичных концернов "Белэнерго" и "Белтопгаз" Евгений Мишук и Эдуард Товпенец. Собравшиеся обсуждали острую проблему, связанную с неплатежами за энергоресурсы в 2001 году. Витебские потребители задолжали поставщикам 75 миллиардов рублей. При такой ситуации "Витебскэнерго" и "Витебскоблгаз" вынуждены прибегать к крайним мерам и "перекрывать задвижки" должникам. Более шестисот хозяйств в этом году на время оставались без электроэнергии, а 14 объектам хозяйствования пришлось вообще перекрыть доступ к газу, 40 предприятиям подача ограничивалась частично. Ведь есть такие объекты, где полное отключение энергии чревато последствиями.

Судя по высказываниям на совещании, минские концерны намерены ужесточить требования к потребителям энергии. Они не собираются прощать долги. К такому решению подталкивают российские партнеры. Газпром не заключает с белорусской стороной контракт на поставку газа, так как мы несвоевременно рассчитываемся с россиянами за "голубое топливо". К тому же союзница-соседка не церемонится с должниками: в октябре Россия несколько раз предупреждала Беларусь об ограничении подачи газа. Уже на декабрь газовики России урезали "пайку" на 500 миллионов кубометров газа.

Что им Беларусь, если своих потребителей газпромовцы не жалуют! Достаточно вспомнить прошлогоднее замерзание Приморья. Предлагаемый бартер россиянам тоже не нужен. Газпром намерен продавать свою продукцию только за деньги. Естественно, в валюте. Но где брать валюту? Это пока братьям-белорусам не известно. Нет даже "зайчиков", чтобы своевременно рассчитаться со своими тружениками по зарплате.

УП "Витебскоблгаз" задолжало "Белтрансгазу" более 200 миллионов долларов. Чтобы хоть как-то "выбить" долги, созданы специальные комиссии в райцентрах и городах. Такая же ситуация с долгами и в Витебске. 5 декабря мэр города Владимир Пелогейко провел заседание исполкома, куда был приглашен и генеральный директор УП "Витебскоблгаз" Петр Шершень. Хозяйственникам областного центра поставлена задача, которую решить весьма сложно. Она сводится к одному: долги надо погашать. Правда, есть предприятия, которые скорее всего умышленно не рассчитываются за использованную теплоэнергию. К примеру, Витебский район заплатил за газ только 30%, а Сенненский — и того меньше. Совхоз "Рудаково", под Витебском, с начала года перечислил 23% денег за газ. В то же время Лиозненский, Городокский, Дубровенский и Толочинский районы долгов почти не имеют.

Кстати, УП "Витебскоблгаз" в течение года поставляет из России и белорусских нефтеперерабатывающих заводов 40 тысяч тонн сжиженного газа для нужд населения, которое оплачивает всего 22% от стоимости газа. Остальные затраты ложатся на плечи промышленников. Им деваться некуда от такого "перекрестного субсидирования": "сверху" командуют. Значит, расходы закладываются в себестоимость тех же телевизоров, стиральных машин, обуви, одежды и прочих товаров.

К сожалению, основная масса населения тратит деньги в основном на еду. А промышленники остаются с носом. Так что винить их за неплатежи вроде и несправедливо.

**Владимир ЖИГУЛОВ.**

## Выцясняюць расійскія канкурэнты

### Завод медыцынскіх прэпаратаў у Драгічыне пад пагрозай закрыцця

Напрыканцы 1980-х гадоў у Драгічыне планавалі пабудаваць буйны біяхімічны завод. Ягоную прадукцыю, хімічнае рэчыва тылазін, збіраліся выкарыстоўваць у межах усяго былога Саюза. Дзеля гэтых патрэб заводу аддалі зямлю плошчай 35 гектараў.

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі планы будаўніцтва завода саюзнага прызначэння былі пахаваныя. Паколькі гэты праект не выклікаў цікавасці ў замежных інвестараў, вырашылі змяніць профіль прамысловага аб'екта. На створаным неўзабаве прадпрыемстве "Экзон" распачалі выпуск лекавых прэпаратаў — гематагену і сіропу шыпшыны. Прадукцыя карысталася вялікім попытам і пераважна рэалізоўвалася ў Расіі.

Некалькі гадоў запар беларускія ўлады з задавальненнем узгадвалі "Экзон" як прыклад стварэння новай вытворчасці без прыцягнення замежных інвестыцый.

Але ў гэтым годзе фінансавае становішча драгічынскага прадпрыемства "Экзон" рэзка пагоршылася. Аб'ём вытворчасці скараціўся на 20%, а складскія памяшканні перапоўненыя гатовай прадукцыяй. Дырэктар "Экзону" Мікалай Дудзін гаворыць, што галоўныя праблемы ўзніклі ў Расіі. Мясцовыя фірмы ўспрымаюць беларускае прадпрыемства як канкурэнта, і таму зрабілі ўсё, каб ліцэнзія на продаж прадукцыі "Экзону" ў Расіі не была адноўленая.

Пэўныя спадзяванні кіраўніцтва прадпрыемства звязвала з вырабам крышталізаванай глюкозы. Але зараз высветлілася, што амерыканская кампанія "Каруэл" распачала ў Расіі аналагічную дзейнасць. Канкураваць па кошце і якасці з гэтым прадуктам беларусы не змогуць.

Гэта азначае, што ў наступным годзе "Экзону" не варта спадзявацца на змены да лепшага. Спецыялісты прагназуюць далейшае скарачэнне вытворчасці і звальненні рабочых. Гэтая акалічнасць найбольш хвалюе мясцовых жыхароў, бо зараз знайсці працу ў Драгічыне вельмі складана.

**Алег СУПРУНЮК.**
*Радыё "Свабода".*

ВПЕРВЫЕ В БЕЛАРУСИ

## Конкурс "Брэнд года"

Впервые в Республике Беларусь проводится конкурс, направленный на поддержку национальных торговых марок. Он даст возможность проанализировать опыт создания и продвижения ведущих брэндов. Итоги конкурса будут подведены на Международной конференции "Развитие маркетинга: возможности интеграции в мировую экономику", которая проводится в январе 2002 года при участии Таможенного комитета, Национального центра интеллектуальной собственности, торговых советников посольств России, Литвы, Латвии, Украины, Польши и др.

Участие в конкурсе дает широкие возможности предприятию. в том числе такие, как реклама, продвижение имиджа торговой марки/брэнда, оценка экспертами сильных и слабых сторон брэнда, перспектив его развития, консультации специалистов.

В конкурсе могут принять участие предприятия, работающие над созданием и продвижением собственных торговых марок. Итоги будут подводиться в следующих товарных группах: продукты питания, легкая промышленность, корпоративный брэнд (для промышленных предприятий, работающих на рынке ТПН), сфера услуг.

Срок подачи заявок **до 21 декабря 2001 года** (по дате почтового отправления) по адресу: **Организационный комитет Конкурса "Брэнд года", Институт приватизации и менеджмента, Минск, 220088, ул.Захарова, д.76.**

За дополнительной информацией можно обращаться:
**Тел. (017) 210-01-05.**
**Факс (017) 236-43-95.**

ДЫЯЛОГІ ДНЯ

# Як жывеш, рабочы?

*У акцыянерным таварыстве "Мотавела" плацяць някепска і амаль без затрымак. Па ўзроўні зарплаты яно ўваходзіць у першую дзесятку прадпрыемстваў аўтасельгасмаша. У кастрычніку сярэдні заробак тут склаў у пераводзе на "зялёныя" 118 долараў.*

*Я сустрэўся з некаторымі мотавелазаводцамі і пагутарыў больш падрабязна пра іх жыццё-быццё.*

## Бульба, макароны і песня

*Мой першы субяседнік — фрэзероўшчык* ***Валерый Мікалаевіч Шаршун****. Ён аддаў заводу 25 гадоў, спецыяліст высокага, пятага разрада.*

**— Валерый Мікалаевіч, якая зарплата ў Вас, класнага спецыяліста?**

— У мінулым месяцы атрымаў на рукі каля 170 тысяч рублёў.

**— А сям'я ў Вас вялікая?**

— Жонка ды сын.

**— Жонка працуе?**

— Не. Яна на пенсіі. Па стане здароўя.

**— Якая ў яе пенсія?**

— 60 тысяч рублёў. Стыпендыя ў сына 12 тысяч рублёў. У суме атрымліваецца 242 тысячы рублёў.

**— Хапае?**

— На яду. На харчаванне амаль усё і ідзе.

**— Колькі Вы траціце на харчаванне?**

— Каля двухсот тысяч. Сабе на абед у сталоўцы трэба тысячу дзвесце рублёў. Гэта амаль 30 тысяч у месяц. Сыну — па тысячы ў дзень. Яшчэ столькі ж. Астатняе на сняданкі і вячэры.

**— Відаць, харчуецеся добра?**

— Дзе там! Значна горш, чым раней. Калісьці мог кіло яблык купіць і адразу з'есці. Цяпер — адно-два ў тыдзень. Мяса таксама купляем менш.

**— На колькі?**

— Раза ў паўтара. Гародніны таксама на столькі ж меней. Галоўнае — гэта сына лепей карміць, яму ж расці трэба.

**— На стале часцей за ўсё што?**

— Бульба ды макароны. Добра, што яшчэ бацькі жонкі дапамагаюць: то бульбы падкінуць, то яйкі ці свініну. Яны жывуць за сотню кіламетраў ад Мінска.

**— Выходзіць, што адкладваць нешта на якія-небудзь пакупкі ў Вас не атрымліваецца?**

— Не. Зрэдку вымушаны эканоміць на ядзе, каб купіць каму абутак ці якую вопратку.

**— Якія-небудзь дарагія рэчы куплялі, скажам, за апошнія пяць гадоў?**

— Летась купілі тэлевізар. Цэлы год збіралі грошы...

**— Як праводзіце адпачынкі? Ці ездзілі куды па пуцёўцы?**

— Апошні раз я ездзіў на адпачынак у 1991 годзе. Звычайна праводжу водпускі ў Мінску ці ў цешчы. Няма сродкаў на пуцёўку.

**— Як бавіце вольны час?**

— Гляджу тэлевізар, чытаю газеты...

**— Беларускае тэлебачанне глядзіце?**

— Рэдка, толькі спартыўныя праграмы. У асноўным — ГРТ, РТР, НТБ.

**— На канцэрты, у тэатры ходзіце?**

— Не. Чытаю, што да нас прыязджаюць артысты з Расіі. Хацелася б пабываць, ды білет каштуе тысяч 25, а то і ўсе 50. Выкраіць са свайго сямейнага бюджэту такія сродкі я не магу.

*Другім маім субяседнікам стаў электраманцёр* ***Сяргей Святаслававіч СУПРУНОЎ****.*

Яго працоўны стаж 11 гадоў. Мае высокі, шосты,разрад.

**— Сяргей Святаслававіч, а ў Вас на тэатры грошы ёсць? На канцэрты ходзіце?**

— Не. Каб пайсці на канцэрт з жонкай, трэба выкласці сама меней 50 тысяч рублёў. Дзе ўзяць такія грошы?

**— У Вас жа, кажуць, някепскі заробак?**

— У мінулым месяцы атрымаў 180 тысяч рублёў. Нібыта і нямала, але амаль усё ідзе на харчаванне.

**— Давайце прыкінем Ваш сямейны бюджэт і на што ён траціцца.**

— Жонка працуе ў дзіцячым садку. Зарабляе тысяч 80—90. Вось і ўвесь бюджэт. Дзесьці 260—270 тысяч на траіх. У нас яшчэ дачка-школьніца.

**— І колькі траціце на харчаванне?**

— Прыкладна 60 працэнтаў сямейнага бюджэту.

**— Якія прадукты ў асноўным спажываеце?**

— Бульбу, макароны. Мяса цяпер купляем намнога менш. Раней куплялі і каўбасу, і свініну, цяпер — штосьці адно. Гародніны таксама спажываем значна менш. Бывала, той жа хурмы жонка прыносіла па кілаграму. Цяпер — штучкі дзве, для дачкі.

**— Крыху адкладваеце?**

— Менавіта — крыху. Долараў пятнаццаць.

**— На што?**

— На абутак, на вопратку. Чаравікі васьмігадовай дачушцы каштуюць столькі ж, колькі і абутак для дарослага чалавека, сорак тысяч. А яна паносіць іх паўгода, ножка падрасла, трэба новыя. Хто выдумаў, што цэны на дзіцячы абутак павінны быць такія, як і на абноўкі для дарослага чалавека?

**— Больш дарагія рэчы куплялі за апошнія гады?**

— Набылі тэлевізар і халадзільнік. Але для гэтага бралі пазыку ў банку.

**— Дзе і як праводзіце адпачынак?**

— Сёлета ездзіў да родзічаў у Калінінград. Так што адпачыў на моры. А звычайна праводжу водпускі дома.

**— Якія перадачы любіце глядзець па тэлевізары?**

— Уключаю НТБ, ГРТ, РТР. Гляджу навіны, перадачу "Як гэта было?"...

**— Беларускае тэлебачанне глядзіце?**

— Не.

**— Чаму?**

— Там вельмі аднабока падаецца інфармацыя.

*Чарговым суразмоўцам стаў малады інжынер-тэхнолаг* ***Дзмітрый Іванавіч ЛЯХ****. Ён два гады таму скончыў Беларускую політэхнічную акадэмію і ўладкаваўся ў аддзел галоўнага тэхнолага "Мотавела".*

**— Які настрой у маладога спецыяліста?** — пытаюся ў яго. І чую ў адказ:

— Які можа быць настрой, калі наперадзе нічога не свеціць?

**— Што Вы маеце на ўвазе?**

— Жыву ў інтэрнаце. Надзей на ўласную кватэру — ніякіх.

**— Чаму так?**

— Побач жывуць сем'і, амаль усё жыццё — у інтэрнаце. Тут у іх выраслі дзеці.

**— Шмат такіх?**

— Шмат.

**— Зарплата Ваша не дазваляе адкладваць на кватэру?**

— Канешне, не. Атрымліваю 120 тысяч. Тысяч 70 ідзе на харчаванне, пяць — на інтэрнат.

**— Дзе харчуецеся?**

— Абедаю ў заводскай сталоўцы, сняданкі і вячэры гатую сам у інтэрнаце... Эканомлю ў месяц долараў дзесяць. Так што за год не сэканомлю нават на адзін квадратны метр жылля. Раней для маладых спецыялістаў выдзялялі субсідыі на жыллё. Цяпер гэтага няма.

**— Якія любімыя перадачы?**

— У мяне няма тэлевізара. Гляджу толькі, калі бываю ў гасцях.

**— Газеты чытаеце?**

— Так. "Труд", "Народную волю", "Свабоду".

— ЗАПУЩУ ЗАВОДЫ, ПОДНИМУ КОЛХОЗЫ, УВЕЛИЧУ ПЕНСИИ...
ЛУКОМОРЬЕ

**Як бачым, мае субяседнікі, — людзі розных узростаў і прафесій. Але ўсе яны жывуць амаль аднолькава. Заробленых сродкаў хапае толькі на "бульбу і макароны", а вось, як кажуць, на песню нічога не застаецца.**

**Аб чым жа яны мараць і спрачаюцца ў курылцы? Аб гэтым расказ у наступным нумары.**

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

